# Мастоўскі Веснік

Не народ для ўлады, а ўлада для народа.

Незалежнае выданне | №14(58) | 25 жніўня 2000 года

КАЛОНКА РЭДАКТАРА

## *Да ведама чытачоў*

**У чарговым нумары "МВ", які выйшаў пад агульнай рубрыкай "Тутэйшая хроніка", змешчаны падзеі, што адбываліся на Мастоўшчыне у апошнія паўтара месяца.**

**Такім чынам мы вырашылі зліквідаваць ранейшае спазненне выхаду газеты.**

ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА

### Раскрылі, каб моклі

Хацелі як лепей, а выйшла як заўжды. Так можна ахарактарызаваць дзеянні мастоўскіх уладаў адносна жыхароў дома нумар 12 па вуліцы Будаўнікоў. Колькі гадоў яны дамагаліся рамонту даху, які працякаў. Выйшлі з паклонам на вялікія інстанцыі. Урэшце дачакаліся. Распачаўся рамонт. На пляскатым даху знялі рубіроід і паставілі кроквы, каб зрабіць двухскатны дах. Потым праца спынілася, бо скончыліся грошы. У гэты час распачаліся дажджы, і людзі вымушаны былі насіць міскі, вёдры і іншы посуд у кватэры, што размешчаны на апошнім паверсе, каб вада не працякала далей. Урэшце рэшт райвыканкам знайшоў грошы, каб завяршыць рамонт, але хто заплаціць жыхарам пятага паверха за страты, якія яны панеслі ў выніку такога рамонту, бо значную частку іх маёмасці сапсаваў дождж.

### Прысуд вынесены

У Мастоўскім судзе на працягу трох дзён пад старшынствам суддзі Герасімчыка ішоў разгляд справы грамадзяніна Ятчэні, які напрыканцы лютага б.г., кіруючы аўтамабілем у нецвярозым стане ля вёскі Пілкі, учыніў наезд на ехаўшых веласіпедам братоў Пацапеяў, а сам з"ехаў з месца здарэння. Старэйшы падлетак ад атрыманага калецтва праз некалькі дзён памёр, а малодшы на некалькі месяцаў быў прыкаваны да бальнічнага ложка. Суд прызнаў Ятчэню вінаватым і асудзіў па артыкулу 206 частка 2 "здзяйсненне наўмыснага злачынства" ( Крымінальны Кодэкс РБ) да сямі з паловаю гадоў турэмнага зняволяння. Апошні падаў апеляцыю.

**Антон Макей**

### Пажарнік у бульбоўніку

Інспектар упраўлення Гродзенскай пажарнай інспекцыі К. у стане алкагольнага ап"янення не справіўся з кіраваннем аўтамабіля і па вуліцы Нёманскай заехаў на агарод мастаўчаніна, дзе расла бульба.

**А.С.**

### Грошай і сена

У калгасе імя Чапаева не выйшлі на працу механізатары і паляводы. Першыя запатрабавалі выплаты заработнай платы. Другія — выдачы большай колькасці сена. Паколькі пасля першага ўкоса нарыхтавана мала сена, то адпаведна, мала яго было выдзелена калгаснікам. У канфлікт вымушаны быў умяшацца першы намеснік старшыні райвыканкама Сяргей Штарноў. Толькі яго абяцанкам паверылі людзі.

**Антон Макей**

### Сіўчык у Мастах

Выконываючы пастанову сойма БНФ "Адраджэнне", яго кіраўніцтва наведвае нізавые структуры. На пачатку жніўня адзін з кіраўнікоў гэтае арганізацыі Вячаслаў Сіўчык сумесна з старшынёй абласной арганізацыі Міколам Баўсюком наведалі шэраг нізавых арганізацый вобласці. У апошні дзень прабывання яны пабывалі ў Зэльве, дзе сталі ўдзельнікамі святкавання 90-х угодкаў са дня наражэння Ларысы Геніюш. Затым завіталі ў вёску Гудзевічы да Алеся Мікалаевіча Белакоза і яго паплечнікаў. Пасля чаго наведалі Масты і мелі працяглую сустрэчу са сваімі аднадумцамі ды сябрамі.

**Ул. інф.**

ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА

## Дарагі, ну надта дарагі Аляксандр Рыгоравіч

У той час, калі па селектарнай сувязі Аляксандр Лукашэнка вучыў усю краіну, як трэба жаць на састарэлых камбайнах ды яшчэ без паліва, да будынка раённага вузла электрасувязі, дзе ў студыі сабраліся старшыні калгасаў і іншыя кіраўнікі, пад"ехала легкавушка з мінскімі нумарамі. Яе салон быў запоўнены партрэтамі кіраўніка дзяржавы. Гэта быў сярэдніх памераў партрэт, змешчаны ў звычайную драўляную рамку, якая пакрыта лакам. Мінскія камерсанты прапаноўвалі набыць "твор мастацтва" за 9 800 рублёў, але гэта была не канчатковая сума. Пакупніку належала заплаціць і падатак на дабаўленую вартасць, што ўвогуле павышала кошт ПП РБ да адзінаццаці з паловаю тысяч рублёў. Адзін з камерсантаў звярнуўся да сходу, і гандаль пайшоў. Старшыні калгасаў вымушаны былі набываць" тавар", але толькі па пералічэнні. Задаволіўшы попыт пакупнікоў, праз гадзіну часу камерсанты з"ехалі ў іншы горад. Нарада доўжылася.

**Антон МАКЕЙ**

## Сабачыя адносіны

Так адносіцца кіраўніцтва саўгаса "Мастоўскі" да пастухоў, якія кругласутачна даглядаюць статак на пашы. Для часовага адпачынку ім прадставілі невялічкія збудаванні, якія не абараняюць ад дажджу. Чалавек павінен сядзець і накрывацца плашчом. Адзін з ветурачоў гаспадаркі,які пабачыў умовы іх адпачынку, зазначыў, што ў яго сабакі значна лепшая будка. Не забяспечаны пастухі і гарачым харчаванне, што абяцала кіраўніцтва. А заробку, што выплачваецца з затрымкаю, хапае толькі на абеды, якія даводзіцца браць з сабою.

**А.С.**

## "Рынкавы сацыялізм" прадугледжвае такую эканомію

У Мастых на працягу ночы не ўключаецца вулічнае асвятленне. Самая цемень на галоўнай вуліцы горада—Савецкай. І гэта не адзінае сведчанне недахопу электраэнергіі. Дзеля зніжэння нагрузкі ў часы пік, прыкладам, на ААТ "Мастоўдрэў" рабочыя маюць адпачынак у чацвер і пятніцу, а працуюць у суботу і нядзелю

**Ул. інф.**

## Касцёл у Мастах

22 ліпеня ў Мастах адбылося адкрыццё першага касцёла.

На працягу 70-ці гадоў існавання Масты Фабрычныя, ці проста Масты, не мелі ні воднага храма, хоць і лічыліся райцэнтрам. У гады існавання СССР гэтыя культавыя ўстановы замяняла раённае ДК, а нешматлікія вернікі розных канфесій вымушаны былі ездзіць у далёкія вясковыя цэрквы ды касцёлы. Пасля таго, як распачалася перабудова і адносіны ўсемагутнай КПСС да рэлігіі памякчэлі, першымі ў Мастах збудавалі храм уласнымі сіламі і на ўласныя сродкі адна з евангеліскіх абшчын.

Некалькі гадоў назад і праваслаўныя вернікі займелі храм Усіх Смуткуючых Радасце.

У горадзе таксама шмат вернікаў каталіцкай канфесіі. Пытанне пабудовы касцёла ўзнікла таксама напачатку 90-х гадоў, але вырашалася з вялікімі цяжкасцямі. Яно было вынесена на абмеркаванне ў райвыканкам. Рашэнне даць дазвол на пабудову касцёла было прынята з перавагаю толькі ў адзін голас. У 1992 годзе для правядзення імшы побач з будаўнічаю пляцоўкаю было ўзведзена часовае збудаванне, але напярэдадні яго адкрыцця зламыснікі ноччу спілавалі крыж. Касцёл будаваўся напрацягу 8-мі гадоў сіламі вернікаў і ў большасці сваёй на людскія ахвяраванні. Будавалі ў асноўным пенсіянеры. І тое, што пад час урачыстасці былі выказаны падзякі кіраўнікам мясцовых арганізацый і органам улады, бадай, даніна тактоўнасці.

Касцёлу далі назоў Маткі Боскай Тройчы Цудатворнай. Велічны будынак напаўгатычнага стылю здзіўляе сваёй грацыёзасцю і аграмаднасцю. Такой колькасці людзей у Мастах не збіралася даўно: ад немаўлят да людзей сталага веку. Велічны будынак касцёлу не змог змясціць нават і трэцяй часткі прысутных. На працягу трох гадзінаў, пакуль ішла імша, людзі стаялі на вуліцы і не разыходзіліся. На адкрыцці Божага Дома прысутнічалі такія духоўныя асобы, як біскуп Гродзенскі Кашкевіч, нунцый Папы Рымскага на Беларусі, дэлегацыі з Польшчы, Германіі і іншыя. Надалей службу ў касцёле будзе правіць ксёнз Рышард Якубец.

Адразу пасля заканчэння святочнай імшы абдылося першае ў касцёле вянчанне. Шлюбам пабраліся Наталля і Павел Пучкі.

**М.Т.**

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА

## Мірон аб"явіўся ў Лунна

У дзень абвяшчэння Незалежнасці РБ нечаканна для многіх на дратах высакавольтнай ЛЭП, што ідзе ўздоўж аб"язной дарогі вакол мястэчка Лунна невядомыя вывесілі два бел-чырвона-белыя сцягі. У гэты раз улады ўгаварылі аднаго з камбайнераў зняць ненавісныя ёй сімвалы. Той рады быў служыць. Кінуў жніво, пакінуў камбайн, ды залезшы на яго, распачаў змаганне са сцягамі. Дарэчы, у мястэчку Лунна існуе даўняя традыцыя вывешвання спрадвечных беларускіх сімвалаў, вось толькі тым, хто іх здымае ці замалёўвае, надалей у жыцці не шанцуе: адзін з іх павесіўся, другі трапіў пад машыну ды застаўся калекам, трэці атрымаў паражэнне электрычным токам і толькі цудам застаўся жыць.

Дзед з Лунна

## Радасць адкладваецца, смутак застаецца

Ужо ў каторы раз прыхаджане царквы Усіх Смуткуючых Радасця звяртаюцца з адной і той самай просьбаю ў райвыканкам, каб улады ўвялі абмежаванне хуткасці руху і пабудавалі пешаходны мосцік цераз канаву, а яшчэ паклалі тратуар даўжынёй 300 метраў. Вернікі выказваюць сваю перасцярогу перад аўтатранспартам, які імчыць па вуліцы 30 гадоў ВЛКСМ, якую ім даводзіцца пераходзіць, каб патрапіць у храм.

Болей года таму назад старшыня райвыканкама Аляксандр Кісялёў паабяцаў прыхаджанам царквы да першага жніўня 1999 года паставіць тут знакі абмежавання руху, а потым заказаць праект пабудовы пешаходнага мосціка даўжынёй ... 2 метры. Прайшоў год. Нічога не зроблена. Зараз згодна са словамі намесніка старшыні райвыканкама Алены Кір"янавай, райвыканкам звярнуўся ў дзяржаўнае прадпрыемства "Гроднааўтадор" з просьбаю будаўніцтва двух прыпынкаў для гарадскіх аўтобусаў паблізу царквы. Нават калі, як кажа Алена Кір"янава, у гэты раз улады "не падмануць" ды збудуюць прыпынкі, то большасць прыхаджан царквы, якія жывуць за некалькі соцен метраў усяроўна не скарыстаюцца тым аўтобусам, а будуць перабягаць вуліцу, ісці па шашы ды спадзявацца, што іх не саб"е машына.

Пабачыўшы, як мясцовыя начальнічкі збыткуюць з людзей, так і хочацца сказаць:"Барані, Божа, ад такой улады.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Абыдуцца без абеда і... сто грамаў

У Доме Саветаў перастаў працаваць буфет, дзе супрацоўнікі райвыканкама і іншых службаў ды аддзелаў маглі танна перакусіць, а аматары моцных напояў зранку "прыняць" для павышэння рабочага тонуса. Ініцыятарамі такіх дзеянняў сталі харчавікі, бо палічылі, што райвыканкам бярэ вялікую плату за арэнду памяшкання. Зараз у калідорах мясцовай улады ходзяць настойлівыя чуткі, што на месца былога буфета прэтэндуе адна камерцыйная фірма.

А.К.

## Прапануюць адпачынак

На ААТ "Мастоўдрэў" зноў узнікла старая праблема. З сярэдзіны жніўня ў некаторых цэхах распачалася адмена зменаў з-за адсутнасці сыравіны, бо не хапае фінансаў на яе закупку. А яшчэ рабочым давялі да ведама, што з першага верасня з гэтай нагоды яны зноў могуць пайсці ў адпачынак, але зараз ужо без выплаты адпускных. Шмат хто з рабочых чакае гэтае даты з вялікім жахам, бо жыць не будзе за што. Тым не менш на прадпрыемстве хапае сродкаў для паспяховага будаўніцтва вілы для генеральнага дырэктара Віктара Бурага.

Антон МАКЕЙ

## Масты паздаравеюць

Мастоўскі райвыканкам зацвердзіў раённую комплексную праграма " Здароўе народа" на 2000 — 2005 гады. У праграме восем раздзелаў. Ёсць такія як "Здароўе і праца", "Здароўе чалавека і навакольнае асяроддзе" ды іншыя. Магчыма можна палічыць, што распрацоўшчыкі гэтага дакумента хацелі пажартаваць, але пэўна для нашага збяднелага грамадства важнейшай як "Аптымізацыя харчавання" праграмы не існуе, бо хто, як не ўлада, навучыць людзей пракарміць сям"ю за такую мізэрную зарплату, што хапае на хлеб і ваду. Акрамя гэтага,састарэлыя калгаснікі павінны будуць займацца фізкультурай і утрымліваць за свой кошт яшчэ нахлебнікаў, бо запланавана ўвесці ў штат калгасаў і саўгасаў ды іншых прадпрыемстваў інструктараў-метадыстаў па фізкультуры і спорту. У свой час адбыўся прыём грамадзянаў намеснікам міністра аховы здароўя Ларысай Сакалоўскай. Потым яна наведала лякарню і запытала хворых пра іх беды. Людзі скардзіліся на адсутнасць лекаў і іх дарагавізну Ларыса Андрэеўна ў адказ толькі спачувальна ківала галавою, адзінае, чым магла дапамагчы людзям. Тым не менш праграма "Здароўе народа" дзейнічае. У райбальніцы шэраг вядучых спецыялістаў пазбавіліся пасадаў. Толькі пацыентам ад гэтага не палягчала.

А.С.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА

### У барацьбе за грошы

Штомесяц атрыманне заробку на ААТ "Мастоўдрэў" для рабочых ператвараецца ў неймавернае выпрабаваннне. Яны займаюць калейку яшчэ задоўга да пачатку працы касаў, а потым у прамым сэнсе штурмуюць іх. У жніўні націск жадаючых атрымаць грошы хутчэй быў настолькі вялікі, што ў адной з касаў выбілі шкло, а каб супакоіць натоўп быў выкліканы нарад міліцыі.

**Ул. інф.**

### Красці сталі болей

Згодна міліцэйскай статыстыкі на працягу мінулага года было зарэгістравана 28 выпадкаў крадзяжу асабістай маёмасці. Сёлета гэты рубеж быў дасягнуты ў жніўні. Пачасціліся выпадкі крадзяжу з дамоў і кватэраў. Мастоўская асаблівасць гэтых здарэнняў у тым, што зладзея ў большасці выпадкаў падбіраюць ключ і пасля наведвання кватэры замыкаюць за сабою дзверы.

**А.С.**

## Турнірная табліца
### (пасля 18-га тура)

| | г | в | н | п | м | а |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Лунінец | 18 | 12 | 4 | 2 | 33:8 | 40 |
| 2. Маладзечна | 18 | 12 | 4 | 2 | 38:10 | 40 |
| 3. Граніт( Мікаш.) | 18 | 12 | 1 | 5 | 29:20 | 37 |
| 4. Тарпеда (Жод.) | 18 | 11 | 4 | 3 | 33:15 | 37 |
| 5. Керамік (Бяроз.) | 18 | 10 | 3 | 5 | 38:23 | 33 |
| 6. Свіслач-Кроўля (Ас.) | 18 | 10 | 2 | 6 | 28:18 | 32 |
| 7. Нёман ( Масты) | 18 | 9 | 4 | 5 | 34:20 | 31 |
| 8. Орша | 18 | 7 | 5 | 6 | 25:23 | 26 |
| 9. Зорка-ВА-БДУ | 18 | 6 | 5 | 7 | 25:24 | 23 |
| 10. Рагачоў-ДЮСШ-1 | 18 | 5 | 8 | 5 | 27:23 | 23 |
| 11. Дынама-Юні | 18 | 6 | 2 | 10 | 24:32 | 20 |
| 12. ЗЛіН (Гомель) | 18 | 5 | 5 | 8 | 12:15 | 20 |
| 13. Трактар | 18 | 5 | 4 | 9 | 22:30 | 19 |
| 14. Хімік (Светл.) | 18 | 3 | 6 | 9 | 22:31 | 15 |
| 15. Вейна-Днепр | 18 | 1 | 2 | 15 | 14:53 | 5 |
| 16. Палессе | 18 | 0 | 1 | 17 | 10:69 | 1 |

## Мастаўчане жартуюць

Прыходзіць мужчына да сябра — стаматолага на працу. Сядзяць, размаўляюць. Тут звоніць тэлефон. Сябра здымае трубку — гэта яго жонка —просіць тэрмінова прыехаць. Ён кажа мужчыне:

— Слухай, пасядзі тут паўгадзіны за мяне. Толькі нічога не рабі. Я хутка.

Рабіць няма чаго. Мужчына застаўся. Толькі сябра пайшоў, заходзіць жанчына сталага веку, уся ў золаце і просіць тэрмінова вырваць ёй зуб. Кажа:

— Плачу 500 долараў, толькі хутчэй.

Ну, мужчына рашае "Была-не-была", дзеля такіх грошай варта рызыкнуць. Бярэ клешчы, засоўвае іх у рот і ірве з усіх сілаў. Жанчына крычыць, хапаецца рукамі за рот і выбягае з кабінета. Хвілін праз пяць да дома пад'язджаюць два шэсцісотых "мэрса" і адтуль вывальваюць браткі. Самы здаравенны ўрываецца ў кабінет і крычыць.

— Ты стаматолаг?

Мужык думае "усё, канец прыйшоў" і толькі ківае галавою.

Нечакана браток кідае на стол пачак зялёных, здымае з сябе залаты ланцуг, гадзіннік і кажа:

— Ты ведаеш, што ты толькі зараз зрабіў? Ведаеш?

— Н-н-не.

— Ты маёй цешчы язык вырваў!!!

Едзе новы п"яны беларус. З кустоў выскаквае ДАІшнік і махае кіём... Новы беларус спыняецца, адчыняе дзверы "мерса" і пытае ДАІшніка:

— Табе куды?

ДАІшнік (разгублена):

— Нікуды...

Новы беларус:

— А чаго ты тады галасуеш...

Мінск. Першамайскія святы. Народ гуляе. Журналіст пытае ў звычайнага рабацягі:

— Ну, як Вам сёлетні Першамай?

— Ды найлепш...

Журналіст у тэлекамеру.

— І так ва ўсім горадзе—жарты, смех, вяселле.

Заснавальнік і рэдактар Язэп Палубятка

Адрас для допісаў: 231600 г. Масты-2 Палубятку І. І. да запатрабавання, тэл. 2-16-90

Аўтары цалкам адказныя за праўдзівасць і дакладнасць дасланай інфармацыі

Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4

Дабрачынна надрукавана Гарадзенскім абласным грамадскім аб"яднаннем «Ратуша» пры падтрымцы фонда «Альянс Каўнтэрпарт», Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).